Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Выдаецца са снежня 1994 года | 20 (528) 20 траўня 2010 года | Кошт **свабодны**

СКУТЭРЫ
ГАРАНТЫЯ НА ЎСЮ ТЭХНІКУ
КРЭДЫТ
МАПЕДЫ
МОТАКОСЫ
БЕНЗАПІЛЫ
РУХАВІКІ ДА МОТАБЛОКАЎ
ГЕНЕРАТАРЫ ад 0,8 да 5,5 квт
ЛОДАЧНЫЯ МАТОРЫ
ЗАПЧАСТКІ
і шмат іншага
ПП «Хорс Мотарс», УНП 190849085; Ліц. 50000539993 да 12.03.2014 г. МГВК
на рынку «Верас»
Затэлефануй: 8(033) 320-82-02

Ювелірны магазін «Облік»
на вул. Кірава, 30/2
тэл/факс.: 2-70-62
Пастаянна працуе майстэрня па рамонту, вырабу і рэстаўрацыі ювелірных вырабаў
ІП Сцежкін С.В, УНП 390289159
Ліц. №02200/0064387 ад 22.07.06, выд. МінФін РБ

УНП 391050392
Лячэбна-аздараўленчы комплекс «БаДэн»
Салярый
сауна
інфрачырвоная сауна
г. Глыбокае, вул. Чырвонаармейская, 19 (ФАК, лазня)
пасв. №9942856 ад 27.03.2008 г. Глыбоцкім РВК
8 (033) 695-82-22;
8 (029) 695-82-22.
Час працы: з 10⁰⁰ да 04⁰⁰

Вокны і дзверы ПВХ, БАЛКОННЫЯ РАМЫ
профіль GEALAN (Германія)
Тэлефон: 8(029) 716-46-47; vel 922-10-40.
• Замер, дастаўка, мантаж
• Гарантыйнае абслугоўванне
ІП Міхайлоўскі С.Г., УНП № 391050790
Пасв. №391050790, выд. Глыбоцкім РВК

Досвед працы 7 гадоў
ІП Падаляан Г.В. УНП 690281795
Недарагія вокны ПВХ
з экалагічна чыстага нямецкага профіля
Металічныя дзверы, міжпакаёвыя дзверы
Затэлефануй: 8 (029) 754-02-32; 8 (044) 703-02-32
Пасв. №690281795, выд. 10.03.04 г. Мінскім АВК

КРАСОЧНЫЙ ДОМ
ОГРОМНЫЙ АССОРТИМЕНТ
СПЕШИТЕ ЗА ВЕСЕННИМИ СКИДКАМИ!!!
ПРИ ПОКУПКЕ ТОВАРОВ НА СУММУ ОТ 100 000 Р. ПОДАРОК
г. Глубокое ул. Московская 10 Vel. 974-83-52
УНП 190928103 ЧТУП «Красочный дом»



У Лучаі.
*Фота кс. В. Місевіча.*
Працяг тэмы на стар. 6

**Філіял «Падсвільскі вінзавод»**
Дзяржаўнага прадпрыемства «Полацкі вінаробчы завод»
**запрашае на работу:**
**начальніка аддзела продажу** (вышэйшая адукацыя, досвед працы па збыту прадукцыі не менш 3 гадоў).
Тэрмін прадстаўлення прапановаў і дакументаў 20 дзён з дня апублікавання абвесткі.
**Кантактныя телефоны:** 3-58-34 (аддзел кадраў); 3-51-84 (прыёмная).
УНП 300986731

Магазін «Хозяин» на Чырвонаармейскай, 21-А
ІП Скурат І.В.; УНП №390019412
Паступілі ў продаж:
сухія сумесі «Люкс-Тайфун», клей для пліткі, шпатлёўка, грунт, гіпсавы клей, клей для ўцяплення фасадаў і г.д. бетонамяшалкі, зварачныя апараты, бензагенератары.
Тэл.: 2-28-10. Тэлефануйце!
Ліц. №22150/1002032, выд. Глыбоцкім РВК

ЧТУП «ОД Стройс»
Вокны і дзверы ПВХ
шафы-купэ, жалюзі, сейфы
дзверы металічныя, дзверы міжпакаёвыя
на Дзяржынскага, 29-А
УНП 390506774
тэл.: 2-65-66
Ліц. №22150/0283014, выд. 07.04.04 г. Глыбоцкім РВК

Рэклама ў газеце «ВГ», тэл.: 8(029) 813-99-99

нумар 166 дзённа й ночна
абвесткі з хатняга тэлефона ў «Вольнае Глыбокае»

УНП 690632886, выд. 14.02.2008 г.
Крэдыт Гарантыя Падарункі
абмер і дастаўка бясплатна!
ПАД КЛЮЧ ПВХ ВОКНЫ
танныя кошты ад вытворцы
(017) 266 53 41
(029) 641 03 53
(029) 768 03 53
РАССОЎНЫЯ БАЛКОННЫЯ РАМЫ
ДОСВЕД ПРАЦЫ 10 ГОД

ТАА "ОКНОГРАД", УНП 690639306
ВОКНЫ, балконныя рамы, ДЗВЕРЫ ПВХ (профіль LG)
Уласная вытворчасць:
замер, мантаж, дастаўка, выраб – 3-5 дзён.
Гарантыйнае абслугоўванне.
Прадукцыя сертыфікаваная.
Пасв. №690639306, выд. Мінскім АВК
Тэл.: 813-63-66 (МТС); 326-30-12 (velcom)

Будаўнічы магазін на Маскоўскай, 79
аптовы, рознічны гандаль – без % крэдыт
Прафесійны інструмент (Германія) з гарантыяй 3 гады.
Усё для будаўніцтва дома!
Сантэхніка водазліўныя сістэмы
Цэгла: вогнетрывалая, паўнацелая сілікатная, керамічная
Блокі. Ванна. Шыфер. Цэмент
ДАСТАЎКА
Металадахоўка
кровельныя матэрыялы
Ліц. №22150/100218, выд. 31.05.04 г., Глыбоцкім РВК
ПГУП "Аляхновіч і К°"
УНП №390506164
Затэлефануй: 2-69-49; 2-72-42; МТС 218-47-60; VELCOM 331-21-12

Вашы ОКНА плюс
Шафы-купе
Дзверы ПВХ, металічныя і міжпакаёвыя
Вокны ПВХ
найноўшыя энергазберагаючыя, 70 мм, 5-камерныя, супраціў цеплаперадачы = 1 M² C° (Вт). Па кошту стандартных.
Тавары ў крэдыт
Выбірай для сябе лепшае!
Балконныя рамы
Вароты секцыйныя
Ралеты, сейфы
Жалюзі: вертыкальныя і гарызантальныя
Карнізы аконныя
Камп'ютэрныя сталы
Ліц. № 22150/0283431 ад 06.06.2008 г., выд. Глыбоцкім РВК
на Леніна, 14/1; тэл.: 2-22-77; мтс: 308-42-00
на Маскоўскай, 17; тэл.: 2-21-28
ЛІНОЛЕУМ ПАНЕЛІ ПВХ САЙДЫНГ
ДЫВАНОВЫЯ ПАКРЫЦЦІ
ЛАМІНАВАНЫЯ ПАДЛОГІ
ІП Сініца С.К.; УНП №390144631;
УНП 391052313 пгуп «ЛерВарСтройПлюс»

ІП Каваленка Д.В. УНП 391294513
Нацяжныя паталкі
ALTEZA
** Францыя, Расія Украіна, Швейцарыя
** Наяўны і безнаяўны разлік
** Растэрміноўка плацяжу
** Фотадрук фантазій
** Гарантыя
** Шматузроўневыя паталкі
НАДАКУЧЫЛІ КРЫВЫЯ ПАТАЛКІ?? Звані
8 (029) 370-88-10; 595-86-12

ІП Валынчук В.А., УНП № 500594599
КУХНІ
ЗАМЕР. ДАСТАЎКА. УСТАЛЯВАННЕ
Кухонныя вуглы, мяккая мэбля
Тэрмін – 10 дзён!
Тэлефон: (029) 697-22-18
па Вашых памерах
Ліц. №42365/0296288, выд. 18.12.2006 г.

## Ó Êàðàááàõ óñòàëÿâàë³ íîâû ïîìí³ê çàã³íóó¢øûì ó âàéíå



■ Зьміцер Лупач

**Напярэдадні Дня Перамогі ў вёсцы Карабы Глыбоцкага раёна адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка ў гонар землякоў, што загінулі пад час апошняй вайны. Новы помнік устаноўлены каля адміністрацыйнага будынку, у якім размешчаны Карабоўскі сельскі Савет і кіраўніцтва ААТ “Канстанцінаў Двор”.**

У Карабах быў помнік загінуўшым пад час вайны, але ён патрабаваў сур’ёзнай рэканструкцыі. Таму было вырашана пабудаваць новы помнік. Нагодай стала тое, што па выніках работы за 2008 год Карабоўскі сельсавет заняў другое месца ў вобласці. Ідэя пабудовы помніка была падтрымана ў Глыбоцкім райвыканкаме. Актыўна дапамагала ва ўстаноўцы помніка і ААТ “Канстанцінаў Двор”. Па словах старшыні выканкама Карабоўскага сельсавета Марыі Аляхновіч, помнік абышоўся ў 13 мільёнаў рублёў. Сродкі на яго былі зароблены пад час суботніка. Нягледзячы на дажджлівае надвор’е, на ўрачыстасць сабралася шмат людзей. Прысутнічалі старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Морхат, раённы ваенком Сяргей Сямёнаў, начальнік аддзела ідэалогіі Міхаіл Чарапкоўскі, прадстаўнікі раённага савета ветэранаў.

Пасля выступлення старшыні Глыбоцкага райвыканкама Алега Морхата, помнік быў урачыста адкрыты. Аб адкрыцці помніка абвясціў залп. На гранітнай пліце зроблены надпіс: “Вялікая падзяка за мірнае жыццё. Вечная памяць удзячных нашчадкаў”, а таксама змешчаны прозвішчы 47 землякоў, што не вярнуліся з вайны. Помнікі асвяцілі прадстаўнікі каталіцкай і праваслаўнай канфесій: ксёндз Мар’ян і айцец Сергій.

Падчас урачыстасці чатыры ветэраны вайны атрымалі медалі “65 год Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941–1945 г.г.” Медалі ўручыў старшыня Глыбоцкага райвыканкама. Пасля гэтага слова ўзяла старшыня сельскага выканкама Марыя Аляхновіч. “Яшчэ адна мірная вясна прыйшла на нашу зямлю дзякуючы тым, змагаўся з захопнікамі. Я выказваю словы ўдзячнасці за мірнае неба над нашымі галовамі. За тое, што сёння мы жывём не ведаючы гора, вайны і нягод,”– сказала яна. Потым слова было дадзена ўдзельніцы вайны Марыі Балтушкінай. Яна ўспомніла ваенныя гады і пажадала маладым ніколі не звведаць нічога падобнага.

На заканчэнні мерапрыемства да падножжа помніка былі ўскладзены кветкі.

Прыкра выглядала толькі адно: на мерапрыемстве амаль не гучала беларуская мова, а мы жужо два дзесяціголдзі жывём у незалежнай Беларусі.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

## Ýïîõà ë³÷áàâàãà òýëåáà÷àííÿ

■ Кастусь Александровіч.

**Да 2015 года па ўсёй Беларусі будзе ажыццёўлены пераход на тэлевізійнае і радыёвяшчанне ў сучасным лічбавым фармаце.**

А ў Пастаўскім раёне ўжо ўшчыльную наблізіліся да вырашэння гэтай задачы. Дзякуючы прыватнай фірме “Ультра-сетка” з мая гэтага года тут сталі ажыццяўляць трансляцыю яшчэ 50 лічбавых тэлеканалаў не толькі па сваіх кабельных сетках у горадзе. Прагрэсіўныя тэхналогіі сталі даступнымі і для паловы жыхароў раёна. На самым высокім месцы ў гарпарку Пастаў на вежы запрацавала базавая станцыя-перадатчык, здольная ажыццявіць трансляцыю ў радыусе 40 км. На жаль, з-за нізіннага рэльефу мясцовасці, лясоў і ўзгоркаў устойлівы прыём забяспечаны толькі ў радыусе 15 км і па ўсяму гораду з насельніцтвам 20 тысяч чалавек. Усім жадаючым стаць абанентамі інтэрактыўнага тэлебачання самай высокай якасці адлюстравання са стэрэагукам дастаткова толькі ўстанавіць у сябе дома спецыяльную прыёмную антэну і купіць лічбавую прыстаўку. У бліжэйшы час колькасць прымаемых тут тэлепраграм павялічыцца да 80 і ў картках доступу з’явіцца і мясцовы тэлеканал “Паставы-ТБ”. Дарэчы, акрамя райцэнтра лічбавае тэлебачанне глядзяць яшчэ ўжо больш 1200 жыхароў Варапаева, Лынтуп і Дунілавіч, абанентаў сеткі “Белтэлекама”.

Âåðõíÿäçâ³íñê³ ðà¸í

## Çà õàáàð – ó êàëîí³þ

■ Станіслаў Раманчук

**Імкліва паправіць сваё матэрыяльнае становішча зараз імкнуцца асобныя суайчыннікі, часта ігнаруючы нормы чалавечай маралі і закон.**

Вось былы дырэктар дома-інтэрната для прэстарэлых і інвалідаў з Верхнядзвінскага раёна таксама стаў на гэту коўзкую сцяжынку. Ён дадумаўся за грошы спрыяць вырашэнню жыццёвых праблем сваіх падначаленых. У судзе па ягонай крымінальнай справе былі доказаны шэраг такіх прыкрых эпізодаў. У суму 500 долараў была ўладкавана сюды на працу сяброўка адной з медсясцёр інтэрната. З яшчэ адной супрацоўніцы ўстановы ўзяў ужо 200 USD за кар’ерны рост па службовай лесвіцы. Калі падначалены санітар папаўся на вочы гэтаму гаракіраўніку на рабочым месцы ў нецвярозым стане, экс-дырэктар зноў вырашыў падзарабіць на гэтым. Па ўсіх правілах за п’янства на рабоце пагражае звальненне. Каб замяць гэты інцыдэнт, спатрэбілася ўжо сума 300 “зялёных паперак”. Але такая дзейнасць “камбінатара” ў дырэктарскім крэсле не прадоўжылася, ганебнай сітуацыяй зацікавіліся праваахоўныя органы. Па прыгавору суда былы кіраўнік установы асуджаны і наступныя 3 гады і 1 месяц правядзе ў калоніі. У яго таксама будзе канфіскавана нажытая маёмасць.

Ì¸ðñê³ ðà¸í

## ²âàí ê³âàå íà Ïÿòðà

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам па ўсёй краіне імкліва старэе насельніцтва на вёсцы і толькі на Віцебшчыне за апошнія 3 гады пагалоўе кароў на панадворках вяскоўцаў скарацілася больш чым на 17 тысяч галоў.**

Паўсюдна па Беларусі супрацоўнікі Камітэта дзяржкантролю напрыканцы красавіка правялі праверкі, як на месцах падтрымліваюць падсобныя гаспадаркі, выявілі шматлікія факты абыякавых адносін да людзей. Не стаў выключэннем і Мёрскі раён і асабліва вёска Акунёва, дзе ўчастак для выпасу кароў насельніцтва плошчай 10 гектараў не даглядаўся і ўход за ім не вёўся. Не дзіўна, што травастой на гэтай пашы быў малапрадуктыўны, паколькі яна не перазалужалася болей пяці гадоў. Жыхары вёсак Новапагосцкага і Мікалаеўскага сельсаветаў былі пакрыўджаны тым, што ім не дапамаглі набыць насенне бульбы для пасадкі і абнавіць гатункі. Цяпер для большасці гаспадарак гэтага і суседніх раёнаў займацца яшчэ праблемамі нейкіх там каваләлачкаў зямлі вяскоўцаў лішні клопат. Асабліва калі людзі ўжо не працуюць у калгасе, карысці ад іх мала, а ўласных гаспадарчых клопатаў хоць адбаўляй. Сельвыканкамы рады былі б і дапамагчы, а пры адсутнасці сродкаў і неабходнай тэхнікі зрабіць гэта цяжка. Пры існуючым калгасным ладзе гаспадарання так будзе і надалей, бо парадак на зямельных участках і на фермах забяспечвае толькі сапраўдны гаспадар на зямлі.

## Áåëàðóñü ³ Êàçàõñòàí ïëàíóþöü ñòâàðûöü øýðàã ñóìåñíûõ ïðàäïðûåìñòâà¢

■ Марына Носава, *БелаПАН*

**Беларусь і Казахстан плануюць стварыць сумесныя прадпрыемствы ў сферы аўтамабілебудавання, сельгасмашынабудавання, станкабудавання, вытворчасці электратэхнічнага абсталявання. Дамоўленасць пра гэта дасягнута падчас візіту ў Казахстан 12-14 мая дэлегацыі беларускіх дзелавых колаў на чале з першым намеснікам міністра прамысловасці Іванам Дземідовічам, паведаміла прэс-служба МЗС.**

У склад беларускай дэлегацыі ўвайшлі прадстаўнікі вядучых прамысловых прадпрыемстваў краіны: ААТ "МАЗ", ААТ "Мінскі маторны завод", РУП "МТЗ", ВА "Гомсельмаш", ААТ "Бабруйскаграмаш", ААТ "Лідсельмаш" і іншыя. Адбыліся перамовы беларускай дэлегацыі ва ўрадзе, парламенце Казахстана, з кіраўніцтвам акімата Астаны. Прадстаўнікі беларускіх кампаній таксама наведалі шэраг рэгіёнаў Казахстана і правялі сустрэчы са сваімі партнёрамі. "Бакі ўзгаднілі алгарытм сумесных дзеянняў па ўключэнні беларуска-казахстанскіх праектаў у Карту індустрыялізацыі Казахстана", - паведамляе прэс-служба МЗС.

У паведамленні таксама зазначаецца, што казахстанскі бок "праявіў значную цікавасць" да вопыту Беларусі па распрацоўцы і ўкараненні новых тэхналогій у прамысловасці, рэалізацыі праграм энергазберажэння, інавацыйнага развіцця. Бакі дамовіліся прадоўжыць абмеркаванне пытанняў пашырэння гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, у тым ліку ў сферы прамысловай кааперацыі ў межах маючага адбыцца Беларуска-казахстанскага дзелавога форуму ў Мінску.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ ì

www.rp5.ru

| Мясцовы час | чацвер 20.05.10 | | | | пятн.21.05.10 | | | сб. 22.05.10 | | нядз.23.05.10 | | 24.05.10 | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 | 03:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | - | - |
| Тэмпература, °С | +13 | +15 | +19 | +17 | +12 | +17 | +22 | +12 | +22 | +12 | +20 | +11 | +19 |
| Ціск, мм | 751 | 751 | 751 | 751 | 752 | 752 | 752 | 751 | 750 | 747 | 744 | 741 | 740 |
| Вільготнасць, % | 76 | 65 | 53 | 63 | 77 | 65 | 36 | 85 | 38 | 86 | 51 | - | - |
| Вецер м/сек | С-В 4 | В 4 | В 4 | С 3 | С 3 | С-В 2 | В 3 | С 2 | С-З 2 | С-З 3 | З 3 | З 3 | С-З 3 |

Запрашаем на пейнтбол!
8 (029) 719-49-45
PAINTBALL
ІП Машкоў А.А.; УНП 300146493

## Äçåíü çà äí¸ì

**У краіне пачалася падрыхтоўка чарговага 4-га Усебеларускага народнага сходу і фактычна стартавала перадвыбарная кампанія па абранню новага прэзідэнта. Магчыма з улікам няпростай эканамічнай сітуацыі і на фоне абвастрэння адносін з Расіяй гэтыя выбары пройдуць яшчэ да завяршэння 2010 года, пакуль ёсць грошы на некаторае павышэнне зарплат. Аднак па выніках 1-га квартала зноў адмоўнае сальда знешнегандлёвага балансу Беларусі па таварах перавысіла 1,2 млрд. USD.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Англія.** Пасля парламенцкіх выбараў краіна займела ўпершыню рэзка абноўленую палату абшчын, у якой ніводная з трох асноўных правячых партый не мае большасці.

**Грэцыя.** Еўрасаюз і Міжнародны валютны фонд дамовіліся прадаставіць краіне экстраную маштабную фінансавую дапамогу, але ў грамадстве гэта выклікала хвалю пратэстаў.

**Украіна.** Адмоўную рэакцыю ў краіне і ў ЕС выклікала прапанова РФ аб аб'яднанні "Газпрама" і "Нафтагаза Украіны", па сутнасці праглынання канцэрна суперманапалістам.

**Бельгія.** Па ўсёй аб'яднанай Еўропе, як заявіла віцэ-спікер Еўрапарламента Сільвана Кох-Мерын, будзе забаронена нашэнне жанчынамі мусульманскай паранджы.

**Літва.** Літва не адобрыла, як афіцыйна заявіла яе прыродаахоўнае ведамства, план будаўніцтва Беларускай АЭС з-за яго адмоўнага ўплыву на акружаючае асяроддзе.

**Ірак.** Кіраўніцтва краіны вырашыла 1 верасня правесці першы аукцыён па продажу замежным кампаніям ліцэнзій на права распрацоўкі буйных 4 газавых радовішчаў.

**Расія.** Па ўдакладненых звестках Мінабароны РФ, агульныя людскія страты СССР у Вялікай Айчыннай вайне склалі 26,6 млн. чалавек, з іх 8,6 млн. загінуўшых – вайскоўцы.

**Польшча.** Па сацапытаннях спікер польскага Сейма Браніслаў Камароўскі ўпэўнена ўзначальвае прэзідэнцкую гонку і ў 1-м туры можа набраць 45 % галасоў выбаршчыкаў.

**Ізраіль.** Услед за Расіяй кіраўніцтва ізраільскага МЗС прапанавала адмяніць консульскія зборы і зрабіць уязныя візы бесплатнымі на ўзаемнай аснове і для грамадзян Беларусі.

**Францыя.** Парламенцкая асамблея Савета Еўропы прызнала сталінскі рэжым вінаватым у штучным голадзе і гібелі мільёнаў грамадзян СССР у 20-30-х гадах мінулага стагоддзя.

**Англія.** Брытанская кампанія "BP" узяла на сябе поўную адказнасць за наступствы сур'ёзнай аварыі на сваёй нафтаздабываючай платформе ў Мексіканскім заліве.

**Украіна.** Гарадскія ўлады Львова вырашылі стварыць у былой перасыльнай турме абласнога цэнтра мемарыял-музей таталітарных рэжымаў "Тэрыторыя тэрору".

**Літва.** Праблематычным, як заявіў пасол Літвы ў РБ Э, Багдонас, стала падпісанне дагавора аб бязвізавым руху жыхароў зоны 50 км з абодвух бакоў граніц з Беларуссю.

**Кіргізія.** Новыя ўлады краіны затрымалі для суда ўжо 20 чалавек з бліжэйшага акружэння адхіленага прэзідэнта Бакіева, апераці па іх затрыманню працягваюцца і ў Расіі.

**ЗША.** Самай дарагой у свеце карцінай стала работа Пабло Пікассо "Агаленая на фоне бюста і зялёнага лісця", якую прадалі ў Нью-Йорку за рэкордныя 106 млн. долараў.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Няма фактараў, як заявіў А. Лукашэнка, якія прымусілі б яго адмовіцца ад удзелу ў новых прэзідэнцкіх выбарах, Мінск таксама ніколі не выдасць экс-прэзідэнта К. Бакіева.

**Гродна.** Больш месяца ходзяць чуткі аб знікненні ці арышце экс-старшыні аблсавета, члена Савета Рэспублікі А. Карпуця, яго днём быццам затрымалі невядомыя ў цывільным.

**Мінск.** У Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Беларусі ўнесены герб Вялікага княства Літоўскага "Пагоня", ён заняў месца на гербах 3 гарадоў Віцебшчыны.

**Добруш.** На фарфоравым заводзе і ў канцэрне "Беллегпрам" катэгарычна не пагадзіліся з абвінавачваннямі расійскіх спецслужб, якія наўмысна падмянілі стандарты на посуд.

**Мінск.** З-за суровых умоў надвор'я зімой у Беларусі сёлета вясной загінула 130 тыс. га азімых культур (10% пасеваў) і яшчэ 120 тыс. га рапсу (30%), іх участкі зноў перасеялі.

**Валожын.** Пасля гібелі на ферме СВК "Лоск" каровы ад шаленства ў гаспадарцы правялі вакцынацыю гуртоў, людзям будуць калоць вакцыну 3 месяцы, ідзе адстрэл сабак і катоў.

**Мінск.** Буйнейшы ў РБ вытворца піва – ААТ "Крыніца" поўнасцю завяршыла тэхнічную рэканструкцыю і парадавала спажыўцоў навінкамі "Крыніца Прэміум" і "Kult Белае".

**Гродна.** Пераможца Нацыянальнага конкурса прыгажосці "Міс Беларусь-2010" 22-гадовая студэнтка Людміла Якімовіч атрымала прыз, але 2 гады па кантракту не можа ісці замуж.

**Мінск.** Кампанія "МТС" першая ў Беларусі падала заяўку ў ДКРЧ на выдзяленне частот для разгортвання ўласных сетак мабільнай сувязі чацвёртага пакалення (4G ).

**Гомель.** Саліст мясцовай філармоніі, 23-гадовы Дзяніс Вершанка выйграў адборачны тур і прадставіць Беларусь на IX Міжнародным конкурсе эстраднай песні "Віцебск-2010".

**Мінск.** Пад праеўрапейскімі лозунгамі пачаў зноў перадвыбарную кампанію экс-кандыдат у прэзідэнты, кандыдат навук, былы віцэ-мэр Гродна Аляксандр Мілінкевіч.

**Мінск.** У выніку чарговай 10-й амністыі, прымеркаванай да 65-годдзя Перамогі, на свабоду выйшлі больш 3 тыс. асуджаных, а для 9300 чалавек зменшылі тэрмін пакарання.

**Гродна.** Абласная пракуратура завяла крымінальную справу супраць дырэктара ААТ "Гроднарыба" за дачу ўказанняў перафасаваць зноў нягодную рыбную прадукцыю.

**Мядзель.** Да 30 мая Мінпрыроды Беларусі запатрабавала падняць з дна возера Рудакова нацпарка "Нарачанскі" затоплены тут для дайвераў іржавы фюзеляж верталёта МІ-2.

**Мінск.** Пры незапоўненых залах кінатэатраў сталіцы дэманструецца новы супердарагі фільм РФ "Стомленыя сонцам-2", станоўчых водгукаў на гэту прэм'еру сезона няшмат.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Наваполацк.** Аб'яднанне "Нафтан" не будзе адмаўляцца ад заяўленых праграм ягонай рэканструкцыі, хоць сёлета завод загружаны сыравінай крыху болей чым на 60 %.

**Віцебск.** На ваенным парадзе 9 мая ў Мінск упершыню паказалі навейшыя распрацоўкі віцебскага КБ "Дысплей" - мабільныя ваенныя робаты на шассі для баявых дзеянняў.

**Браслаў.** Міністры прыродаахоўных ведамстваў Латвіі і Беларусі Р. Вейоніс і У. Цалко падпісалі ў райцэнтры пагадненне аб супрацоўніцтве па захаванню багаццяў прыроды.

**Полацк.** На Рэспубліканскай Дошцы гонару з'явілася імя пераможцы спаборніцтва за 2009 год – мясцовага ААТ "Полацкбыт" і яшчэ трох розных арганізацый з Віцебска.

**Орша.** Да летняга сезона на сырзаводзе пачалі выпускаць адразу 3 навінкі марожанага-эскімо, на чарзе вытворчасць больш смачнага двухслойнага эскімо "У гасцях у казкі".

**Суражж.** Цэлую алею з 65 саджанцаў сасны заклалі ў гарпасёлку вучні мясцовай школы ў гонар воінаў-вызваліцеляў, гэта мясцовасць не зведала жахаў фашысцкай акупацыі.

**Ушачы.** Навейшае айчыннае абсталяванне для разліву безалкагольных напіткаў і мінеральнай вады "Вечалле" ўстанавілі на мясцовым гароднінасушыльным заводзе.

**Верхнядзвінск.** Райпракуратура арыштавала 33-гадовага жыхара райцэнтра, які задушыў сваю былую настаўніцу за адмову даць грошай і падпаліў яе дом, хаваючы злачынства.

**Сянно.** Больш 16 млн. рублёў прысвоіла сабе за 2 гады 25-гадовая касір Багушэўскай райбальніцы, забіраючы сабе частку пенсій пажылых пацыентаў сацыяльных ложкаў.

**Лепель.** Падчас міжнароднай акцыі "Ноч музеяў" у мясцовым музеі прайшоў канцэрт лепшых калектываў Лепельшчыны, позна вечарам сюды пускалі жадаючых з фанарыкамі.

**Орша.** Упершыню ў гісторыі прафліцэя машынабудаўнікоў 28 хлопцаў размеркавалі на працу на Аршанскі авіярамонтны завод слесарамі-зборшчыкамі лятальных апаратаў.

**Віцебск.** Экспертны мастацкі савет пры Міністэрстве культуры Беларусі забракаваў праект помніка-плагіята ў гонар княгіні Вольгі, але з гэтым не пагадзіўся А. Косінец.

**Полацк.** У вельмі цяжкім стане трапіла ў бальніцу 85-гадовая пенсіянерка, у якой сабака суседзяў – стафордшырскі тэр'ер адгрыз левую руку, моцна пакусаў і левую нагу.

**Лепель.** Кіраўніцтва прыватнай базы адпачынку "Лодэ" на Лепельскім возеры выдзеліла 16 бясплатных пуцёвак для аздараўлення мясцовых жадаючых ветэранаў вайны.

**Наваполацк.** У адказ на патрабаванне кантралёра аўтобуса заплаціць штраф безбілетнік адкрыў стральбу ў салоне з пнеўматычнага пісталета, яго будуць судзіць за хуліганства.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**740** *млн. USD* такім толькі ў сакавіку гэтага года, па дадзеных статыстыкі, было адмоўнае сальда гандлёвага балансу Беларусі па таварах. Дарэчы, такая непрыемная тэндэнцыя ў нас захоўваецца ўжо каторы год запар, хоць пайшлі сёлета размовы, што быццам краіна ўжо выйшла з крызіса. Але гэта толькі байкі для недасведчаных, паколькі знешнегандлёвы беларускі баланс з пачатку года вытрымлівае параметры мінулага складанага 2009 года.

Праўда, у сярэдзіне мая Нацбанк Беларусі ў трэці раз сёлета, магчыма, па прыкладу сваіх расійскіх калег пайшоў на зніжэнне стаўкі рэфінансавання яшчэ на 0,5 працэнта. Калі ў канцы леташняга года такая стаўка ў нас была 13,5 %, то з 12 мая яна знізілася да 12 % гадавых. Датэрмінова айчынныя банкіры выканалі намечаныя на першае паўгоддзе параметры ў адпаведнасці з Асноўнымі накірункамі грашова-крэдытнай палітыкі РБ на 2010 год. Аднак у нашых суседзяў расіян эканамічная сітуацыя лепшая, і там банкі крэдытуюць па стаўцы 8 % гадавых.

Зазначым, што рост інфляцыі ў нашай краіне пакуль складаў 6,4 % гадавых. Адначасова сёлета істотна пагоршыліся фінансавыя ўмовы паставак у РБ расійскай нафты. Цяпер абодва НПЗ у Наваполацку і Мазыры загружаны крыху больш чым на палову сваіх магутнасцей. У мінулым асноўныя донары айчыннага бюджэту штогод перапрацоўвалі да 22 млн. тон "чорнага золата" і пры гэтым прадавалі за мяжу 15 млн. тон нафтапрадуктаў, зарабляючы так неабходную краіне валюту. Аднак Расія-матухна вырашыла чамусьці болей не падтрымліваць свайго саюзніка і "адзін народ", пастаўляючы непад'ёмную для нас нафту.

Летась, не сакрэт, найбольш падтрымаў беларусаў у цяжкі час Міжнародны валютны фонд, які выдзеліў нам па праграме stand-by амаль 3,5 млрд. долараў. Сёлета вясной прагучала з розных высокапастаўленых крыніц, што болей такой патрэбнасці ў дадатковых крэдытах МВФ краіна не мае. Аднак прайшло ўсяго некалькі тыдняў і ў беларускую сталіцу з двухтыднёвым рабочым візітам прыбыла місія гэтых "акул капіталізму" на чале з Крысам Джарвісам. Яна да 25 мая правядзе маніторынг беларускай эканамічнай сітуацыі на дадзены момант.

Прадстаўнікі фонда не хаваюць, што з уладамі будуць абмяркаваны далейшыя планы супрацоўніцтва, разгледжаны магчымасць і неабходнасць выдзялення такой новай праграмы дапамогі. Але беларусы пакуль не выканалі дадзеныя раней МВФ абавязацельствы, найперш па стварэнні Нацыянальнага агенства па інвестыцыям і прыватызацыі і па павышэнні тарыфаў ЖКГ для насельніцтва на 7 USD у эквіваленце. Для нашай краіны патрабуюцца значныя намаганні для таго, каб утрымаць і ўмацаваць курс беларускага рубля па адносінах да асноўных валют.

А на чарзе чарговыя прэзідэнцкія выбары і дадзеныя народу абяцанні давесці да канца года сярэднюю зарплату па Беларусі да 500 долараў у месяц. Такі рэзкі прарыў даходаў беларусаў, відавочна, выкліча негатыўную ацэнку МВФ. Яго спецыялісты парэкамендуюць нам не рабіць гэта без адпаведнага павышэння прадукцыйнасці працы на заводах і фабрыках айчыннай індустрыі. З улікам раней назапашаных фінансаў і цяперашніх аб'ёмаў знешняга гандлю, па меркаванню экспертаў, Беларусі сёлета да канца года можна пратрымацца і без дадатковай знешняй фінансавай дапамогі.

Беларусь спадзяецца цяпер болей на дапамогу кітайцаў, сяброў з Венесуэлы, а таксама на сродкі антыкрызіснага фонду ЕўрАзЭс. Пры неабходнасці можна будзе прадаць прыбыльныя кавалак дзяржуласнасці, да прыкладу, той жа "Белтэлекам". Ужо адкрыта гавораць аб магчымай прыватызацыі таго ж "Беларускалія" кітайцамі. Пры спрыяльнай кан'юнктуры перамоў і консультацый з МВФ да канца года можа быць атрыманы чарговы заходні транш крэдыту на 700-800 млн. USD.

Пакуль сітуацыя са знешнім дзяржаўным доўгам у Беларусі не такая пагрозлівая, як у Грэцыі. Па стану на 1 красавіка ён дасягнуў у нас 8,45 млрд. USD пры гадавым ліміце 9,5 мільярдаў. Аднак пры гэтым трэба памятаць, што любыя даўгі з цягам часу трэба аддаць...

# “Вялікія людзі прыплылі здалёку, тут жылі, тут і пахаваныя...”

Падарожжы з Юрыем Пілімонам 2

■ Ул. Скрабатун

**На Глыбоччыне – шмат старажытных курганаў. Ёсць народнае павер'е, што пад імі пахаваныя волаты. Таму і клічуць курганы гэтыя валатоўкамі.**

ВОЛАТ [ад стараславянскага велии — вялікі], персанаж беларускай міфалогіі. Асілак вялікага росту і магутнай сілы. Паводле паданняў, волаты жылі ў старадаўнія часы, пахаваныя ў доўгіх курганах — валатоўках. Існуюць назвы паселішчаў у паўночна-усходняй і цэнтральнай Беларусі – Волаты, Валатоўкі і падобныя, якія звязваюцца з волатамі ў народных паданнях.

Некаторыя беларускія этнографы – В. Ластоўскі, М. Каспяровіч – лічылі волатаў старажытным племенем, продкамі беларускага этнасу.

Паданні пра волатаў паўплывалі на чарадзейныя казкі пра асілкаў, якім уласцівыя пэўныя рысы волатаў (напрыклад, вялікая сіла).

Рамантычная казка! І не больш. Хто ж не чуў у дзяцінстве казак, не глядзеў мультфільмаў пра волатаў (багатыроў)! А казка, яна і ёсць казка. Хто ў яе паверыць? Хіба што даверлівыя дзеці…

Прызнаюся, і аўтар гэтых радкоў да нядаўняга часу лічыў волатаў персанажамі беларускага фальклору, беларускай міфалогіі. Аднак, пару тыдняў таму, нечакана, патрапіў на вочы цікавы дакумент, які прымусіў радыкальна пераасэнсаваць погляды на гэтую тэму:

“Недалеко отъ дер. Перевозъ, на правомъ берегу р. Соши находится земляная насыпь; длина ея 200 саж., ширина 5 арш. и вышина 1 арш. по сказании старожиловъ, возведение насыпи приписывается iезуитамъ, жившимъ въ м. Глубокомъ, Дисненскаго уѣзда.

Другая насыпь находится въ 2-хъ верстахъ отъ дер. Зябковъ; на ней уцѣлѣли развалины бывшей униатской церкви и кладбище. По преданiю, насыпь сделана во время войны съ французами въ 1812 г. По сообщенiю мѣстнаго учителя, насыпь эта имеетъ въ вышину 16 саж., въ длину 90 саж., а въ окружности 240 саж. Въ настоящее время, при погребенiи умершихъ, здѣсь вырываемы были человѣческiя кости и черепа необыкновенной величины, и мѣдныя пряжки и пуговицы съ непонятными надписями”.[1]

Звярнулі ўвагу? “...здѣсь вырываемы были человѣческiя кости и черепа необыкновенной величины... ”

Раптам згадалася, што менш году таму, літаральна ва ўсіх газетах Беларусі, была апублікаваная сенсацыйная інфармацыя пад загалоўкам: “Пад Друцкам знайшлі пахаванне сярэднявечнага спецназу”:

“Археолагі адкапалі ў Віцебскай вобласці пахаванне старажытных ваяроў. Навукоўцы з Інстытута гісторыі Акадэміі навук адносяць знаходку да XI—XII стагоддзяў. Яна ўнікальная: адразу 38 пахаванняў паводле паганскага абраду разам. А ў цэнтры — каменны саркафаг. А ў ім знайшлі — чэрап. Археолагі не выключаюць, што гэта можа быць пахаванне ваяроў з военачальнікам. Вучоных уразіў рост большасці пахаваных — каля двух метраў. Нават у наш час гэтыя людзі глядзеліся б асілкамі. Што казаць пра XII стагоддзе, калі сярэдні рост людзей быў усяго каля 160 см (як, напрыклад, у наўгародскага князя Аляксандра Неўскага). З такой дружынай у Сярэднявеччы можна было займацца стварэннем уласнай дзяржавы. На адным з пахаваных археолагі выявілі парэштκі каўнерыка з узорам, характэрным для візантыйскай вопраткі. То бок, людзі гэта былі, найхутчэй, не бедныя і бывалыя…”[2]

Не можа быць, каб за 16-гадовую гісторыю нашай газеты тэма волатаў ні разу не ўсплыла! Штосьці такое мы ўжо пісалі… Так! “Паміж Івессю і Псуяй”[3]. Перачытваю тое, што распавёў старажыл вёскі Шо Ціхан Лагош, 1916 г.нр., які ў 1936 годзе, у якасці нанятага работніка, разам з польскімі археолагамі Аленай і Уладзімірам Галубовічамі (жонка і муж), праводзіў археалагічныя раскопкі курганаў валатовак каля вёскі Шо.

– Штосьці цікавае знаходзілі?– яшчэ два гады таму задаваў пытанне Ціхану Лагошу аўтар гэтых радкоў.

– Ляжыць чалавек на голай зямлі і нічога пры ім не было, нават вуголляў, – кажа спадар Ціхан. Толькі чысты пясок! Зверху насыпаны курган. Ляжалі там усе галовамі на захад, а ў іншых валатоўках – на паўдзён. Адна валатоўка было вялікая. Мы ж яшчэ, калі малыя былі, увечары пад кароў хадзілі, забіраць з пасьбы – узлезем на яе, качаемся па ёй. Дык вось, калі гэтую валатоўку раскапалі, знайшлі шкілет чалавека пад два метры. Дарэчы, яшчэ адна такая вялікая валатоўка і да сёння засталася нераскапанай. У людзей, што там пахаваныя, былі ўсе зубы ў наяўнасці. Аднак, караценькія, дужа з'едзеныя. Археолагі казалі, што агню ў іх яшчэ не было. Елі толькі расліную ежу. Як дзікуны былі.

Так ужо супала, што ў часе падрыхтоўкі гэтага матэрыялу, у рэдакцыю, падаць прыватную абвестку, завітаў Пётр Паўлавіч Юруць, старшыня Псуеўскага сельсавета. (На лаўца і звер бяжыць! – народная мудрасць).

О!!! Які ў Вас унікальны край! – кажу. Столькі азёраў: Шо, Івесь, Псуя і яшчэ два запаведных возеры – Доўгае і Белае! Галубіцкая пушча! Старажытныя курганы! На тэрыторыі Глыбоцкага раёна, у які, па плошчы, па некалькі разоў улезуць такія карлікавыя дзяржавы кшталту Сан-Марына, Андора і Ліхтэнштэйн, па прывабнасці, няма чаго паставіць побач. Не Мосар жа рукатворны ставіць! Хоць там так прыгожа! Ну, хіба што раён вёскі Горкі, дзе краявіды па прыгажосці не саступаюць лагойскім.

– Згодзен! – кажа спадар Пётр. Падобнае меркаванне і ў мяне. Вось зрабілі гарналыжны комплекс у Сілічах, а мне тады падумалася: не там яны насыпалі, трэба тут было, у нашых Горках, нейкую гару метраў на 50 падсыпаць. І не горш, а мо і лепш, чым тыя Сілічы выглядалі б.

– Шкада толькі, што Цэнтр Еўропы, які быў на Вашай тэрыторыі, на возеры Шо, палачане скралі! – кажу.

– Нічога ў мяне не скралі! З паперамі на Цэнтр Еўропы ў мяне – усё ў парадку.

– А ці жыве Ціхан Лагош? Мы некалі двойчы ў яго былі. Распавядаў шмат цікавых гісторый, пераказваў нам успаміны сваёй бабулі з часоў прыгону. За “польскім часам” удзельнічаў у археалагічных раскопках.

– Жыве Ціхан! Бачыў нядаўна. Шкада, але ўжо няма ў яго дачкі, якая ім апекавалася… Анкалогія.

Пра археалагічныя раскопкі ён і мне апавядаў.

– Вялікія людзі прыплылі здалёку, тут жылі, тут і пахаваныя! – казаў мне Ціхан.

– Яму казалі археолагі? Нам ён, чамусьці, пра тое не апавядаў!

– Не археолагі! Ад дзядоў і прадзедаў, здавён, ідзе такая пагалоска!

– Менавіта – прыплылі? Не прыйшлі?

– Прыплылі!

У такім замкнёным арэале, якімі ёсць ваколіцы возера Шо, людзі жылі воддаль бойкіх гасцінцаў, насельніцтва не змешвалася, то, натуральна, паданні пра волатаў маглі захоўвацца і тысячу гадоў. Зразумела, кожнае новае пакаленне жыхароў задавалася пытаннем: “Дзядуля, што гэта за курганы? Хто іх насыпаў?”

– Вялікія людзі прыплылі здалёку, тут жылі, тут і пахаваныя! – адказвае дзядуля ўнуку.

Хаця ў гэтым можа быць і вялікая доля іншасказальнасці. Прыплылі? Куды? У Полацк? А сюды, на бераг возера Шо, прыйшлі пешшу? Ці ўсё ж: з Балтыйскага мора, па Дзвіне, потым па яго прытоку Дзісне, а затым па рэках Мнюта-Шоша, заплылі ў возера Шо? Казаў жа аўтару 90-гадовы старажыл вёскі Перавоз спадар Курылёнак, што першы мост яго памяці, праз Шошу, быў пад 60 метраў. Тры разы за яго жыццё мост праз

*Працяг на стар. 5*





**Надмагільны камень са свастыкай, якой ці не тысячу гадоў. Раён возера Доўгае.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Графічная выява свастыкі.** *Гл. здымак злева.*



**Старажытныя могілкі ля возера Доўгае. На пярэднім плане – Юрый Пілімон, настаўнік Зябкаўскай БШ з сынам, на дальнім плане – аўтар.** *Фота Кастуся Бахіра.*

[1] Пам. кн. Вил, г. на 1891 г.
[2] http:// NN.BY, 23 верасня 2009.
[3] “Вольнае Глыбокае”, № 22 (426), 29.05.2008 г.

Ціхан Лагош



*Заканчэнне. Пачатак на стар. 4*

Шошу звужалі. Не рэчка, а рака была! Якой жа шырокай яна магла быць тысячу гадоў таму!

Прыплылі скандынавы! Возера Шо па-шведску не што іншае, як «возера». Сам шведскі пасол на Беларусі Стэфан Эрыксан тое пацвердзіў. Больш таго, археолагі Галубовічы ў адным з мужчынскіх пахаванняў каля вёскі Шо ў курганным могільніку раскапалі пахаванне хлопчыка 7-9 гадоў з багатым інвентаром: рэшткі суконнай світкі і скураного пояса, упрыгожанага пласцінкамі з рэльефным штампаваным арнаментам, са спражкай сэрцападобнай формы. Да пояса быў прымацаваны нож, на правай руцэ пярсцёнак і бранзалет, а каля ног ляжала вялікая сякера з шырокім лязом. Побач з касцяком захаваўся чэрап барана.

Згодна са старажытнай міфалогіяй, казёл быў свяшчэннай жывёлінай Тора-Перуна. Бог Тор ездзіў на фурманцы, якая была запрэжаная дзвюма казламі.

Чарапы барана і авечкі сустракаюцца ў курганах з мужчынскімі пахаваннямі каля вёсак Чарневічы і Залескі. Цікава, што культ барана быў развіты ў гэтых мясцінах амаль да XX ст. І знаходкі чарапоў у курганах хутчэй за ўсё звязаныя з гэтым культам, які быў занесены сюды скандынавамі (магчыма, вікінгамі). У самой жа Скандынавіі ахвярапрынашанні гэтых жывёлаў — з'ява звычайная.

Што прывабіла "вялікіх людзей" прыплысці здалёку, тут жыць, тут і памерці?

Беларускія навукоўцы, адназначна, сцвярджаюць: возера Шо – астатачнае возера ад вялікага прыледавіковага возера-мора. Збольшага, уся Галубіцкая пушча – дно таго возера-мора. У раёне вёскі Ліпава, нават, і сёння, як на беразе Балтыйскага мора, можна ўбачыць пясчаныя выдмы (дзюны). Значыць, тэарэтычна, з Балтыйскага мора, далей па Дзвіне, затым па рацэ Дзісне, яе прытоку Мнюце, далей па рацэ Шошы, можна прыплысці ў гэтае прыледавіковае возера-мора. Зрабіць тут, на беразе, сталы апорны пункт. Сёння, гэта астатачнае возера Шо. Сэнс ва ўсім гэтым быў бы, каб тут праходзіў нейкі гандлёвы шлях, напрыклад, "з варагаў у грэкі". Так! З гэтага возера-мора рэкі цяклі ў розныя бакі: частка ў Балтыйскае мора, а іншая частка – у Чорнае мора. Усе яны прытокі ракі Бярэзіны, якая сама – адзін з буйнейшых прытокаў Дняпра. Гэта і ёсць наўпроставы шлях да грэкаў.

Так магло быць тысячу гадоў таму! І курганы гэтыя археолагі адносяць да XI стагоддзя. Няма ўжо возера-мора. Яго воды вынеслі рэкі басейнаў Балтыйскага і Чорнага мораў. Сама ж зямля, скінуўшы 2-х кіламетровы цяжар ледавіка, па прынцыпу сціснутага рукамі паветранага шара, а потым вызваленага ад ціску, пачала выпрастоўвацца. Шансаў захавацца возеру-мору не было аніякіх. Засталіся толькі верхавыя балоты Галубіцкай пушчы і астатачныя азёры ў Глыбоцкім, Докшыцкім і Лепельскім раёнах. І паданні! Аб «вялікіх людзях, якія прыплылі здалёку», што тут жылі і тут у курганах пахаваныя. Ды артэфакты – "... здзесь вырываемы были человъческія кости и черепа необыкновенной величины... "



**Надмагільны камень са свастыкай ля вёскі Шо.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Ён сагрэў мне сэрца

■ **Стась Багданаў,** *адмыслова для «ВГ».*

**«Ён сагрэў мне сэрца», – так пра дакументальны фільм «Эпоха Барадуліна» ў гутарцы з прэс-службаю «Белсату» сказаў яго герой. Упершыню стужку паказалі на нашым канале ў гонар 75-гадовага юбілею Рыгора Барадуліна ў сакавіку. Нядаўна паказ стужкі адбыўся ў мінскай галерэі «Ў». 30 траўня фільм «Эпоха Барадуліна» – зноў на «Белсаце».**

Стваральнікамі дакументальнага фільму стала сямейная пара: рэжысёр і аўтар сцэнарыю – Віктар Корзун, прадзюсер ды інтэрв'юер – Кася Камоцкая.

«Мы шмат што здымаем, фіксуем для гісторыі, каб цікавае і важнае не знікла. Рыгора Барадуліна фільмавалі з 2007 года. Была магчымасць бачыць і гаварыць з ім у прыватных сітуацыях, у інтымным антуражы. Грэх было не скарыстацца», – кажа Віктар Корзун. Аўтары фільму дзякуюць за гэта барду Алесю Камоцкаму, які мае багата песень на вершы Барадуліна і сябруе з ім. «Атрымаўся багаты архіў. Было спадзяванне аформіць у фільм, юбілей стаў добраю нагодаю», – распавядае рэжысёр.

Дарэчы, творчы тандэм можа наладзіць цэлы цыкл: «Шмат знятага па персаналіях – тыя самыя Васіль Сёмуха, айцец Надсан, Сяржук Вітушка…»

Кася Камоцкая кажа, што матэрыялу пра Барадуліна хопіць яшчэ на два фільмы. Бо вартая асоба… Барадулін – адзін з самых лепшых беларускіх паэтаў. Шмат хто, упэўненыя аўтары стужкі, скажуць, што і найлепшы.

Застаецца толькі шкадаваць, што кіраўнік краіны, віншуючы з юбілеямі расейскіх поп-музыкаў, на 75-годдзе класіка беларускай літаратуры Барадуліна, які займае сваё месца ў хрэстаматыях, забыўся.

У фільме багата архіўных кадраў – і відэа, і фота. Датычаць яны не толькі жыцця паэта, але і эпохі, у якую яму давялося жыць. То бок з 1935 года і да сённяшняга дня. Усё гэта паказваецца пад акампанемент вершаў Барадуліна, з ягонымі каментарамі-згадкамі, развагамі пра малое і вялікае.

І будзем спадзявацца, што гэты фільм можа працягнуцца хронікаю не аднаго года і новых барадулінскіх радкоў. І што нагодаю для чарговага паказу фільму праз нейкі час будзе атрыманне Рыгорам Іванавічам Нобелеўскай прэміі.

Мы папрасілі Віктара Корзуна назваць, на ягоны погляд, самыя ўдалыя, пранікнёныя эпізоды стужкі.



«Гэта калі гучаць вершы нібыта ад імя маці Барадуліна, пасляваенныя, са зваротам да мужа Івана, якога ўжо няма. Удала легла песня Камоцкага на кадры паваеннага часу. З Караткевічам, Быкавым… Ва Ушачах, калі Барадулін стасуецца з суседзямі, нешта робіць. Кранальныя моманты, калі Барадулін каментуе архіўныя кадры», – згадвае аўтар і рэжысёр фільму.

Такіх кранальных момантаў шмат – кожны глядач нечым прасякнецца. Скажам, успамінамі Барадуліна: калі прыйшлі фашысты, ён сядзеў маляваў хатку, а немец падышоў і падмаляваў дым з коміну. А потым быў ужо дым ад пажараў над хатамі,- згадвае паэт.

Ці такі метафарычны момант: малым Барадулін зрабіў шпакоўню, прымацаваў да дрэва, і вось цяпер можна бачыць тое, як вырасла гэтае дрэва – шпакоўня ўжо высока-высока.

Рыгор Барадулін адзначае, што фільм зняты нетрадыцыйна: «Я сам маю досвед стварэння дакументальных фільмаў. Але звычайна ўсё робіцца па адной схеме. А тут нібы фільм у



фільме. І яшчэ мне спадабалася, што там не толькі пра мяне, пра мяне, пра мяне… Там і Быкаў, і Караткевіч. Акцэнты расстаўленыя шырока, усплываюць такія постаці».

Што да згаданых сяброў-літаратараў Барадуліна, то ў фільме ёсць кадры, як Караткевіч выступае на з'ездзе пісьменнікаў, што кажа пра Барадуліна Быкаў і як сам паэт нясе крыж на пахаванні Васіля Уладзіміравіча.

Трапіў у кадр і Аляксандр Лукашэнка – ён пляскае ў далоні і пасміхаецца на вокліч паэта "Жыве Беларусь!" са сцэны Купалаўскага тэатру.

Шмат у фільме асабістых фотаздымкаў Барадуліна. Чорна-белыя – дзе ён яшчэ малы, пасля з жонкаю Валянцінай у 1960-я гады, з дачкой Ілонай; каляровыя – напрыклад, з унучкаю Дамінікаю. Багата кадраў, у тым ліку датаваных ваенным часам, з радзімы паэта – мястэчка Ушачы.

Самым жа цёплым эпізодам Рыгор Барадулін назваў тыя кадры, дзе гучыць голас ягонай маці, Акуліны Андрэеўны, якая пайшла з жыцця ў 1971 годзе. У фільме гучыць песня ў ейным выкананні.

«Ён сагрэў мне душу», – кажа пра фільм паэт.



